*Жыве Беларусь! Жыве вечна!*


# Голас Камбатанта

газэта ветэранаў беларускага вызвольнага руху

N 3,
жнівень 2000 г.
Адрас для карэспандэнцыі:
231800 Гродзенская вобл.,
г. Слонім-9, а/с 3.
Рэдактар Сяргей ЁРШ


## Несьмяротная Пагоня

Сьвятая, грозная Пагоня,
Век Беларусь ты бараніла,
Таму ў трывожны час і сёньня,
Ты — гонар наш і наша сіла.

Падчас, у жудасным бяздоньні
Хоць сілы нас і пакідалі,
Твае і рыцары, і коні
Зноў дух на бітву паднімалі.

Малюся, хоць няхай і зьлягу,
Каб вечна велічнай выявай
Пад Бел-чырвона-Белым сьцягам
Ты зьзяла над усёй Дзяржавай.

Грамі захопнікаў і здраду!
Удар твой Богам благаслаўлёны,
Бо служыш нам не для нападу,
А служыш нам для абароны.

**Самсон Пярловіч**

## Мая Галгофа

Была ў мяне свая Галгофа.
Я крыж нясу свой да канца.
Не абышлося ў катастрофе
І бяз цярновага вянца.

Валок я крыж свой, сьцяўшы
зубы,
Ня раз цямнела ў вачах.
Праклён шапталі мае губы
У снох кашмарных па начах.

Бязсільна апусьціў я рукі,
Ня чуў у зьнямозе сваіх ног.
Цяжару гэтакае мукі
Здаецца, вытрымаць ня мог.

Але запас людзкое сілы
Ніхто ня зьмерыў у жыцьці.
І аж на самы край магілы
Мне крыж свой трэба данясьці.

**Уладзімер Сіўко**

# Рыгор Зыбайла не загінуў у Францыі, а прайшоў савецкія канцлягеры

**У мінулым нумары "ГК" мы надрукавалі ліст Барыса Данілюка з ЗША пра лёс беларускага патрыёта Рыгора Зыбайлы. Існуюць дзьве вэрсіі на конт ягонага лёсу. Па адной зь іх Зыбайла быў расстраляны польскай контразьведкай арміі Андэрса ў Марсэлі ў 1945 годзе, а па іншай — трапіў пасьля ў рукі чэкістаў. Барыс Данілюк прытрымліваецца першай вэрсіі ды прыводзіць свае довады. І вось мы атрымалі водгук на тую публікацыю, зь якога вынікае, што Зыбайла не загінуў у Францыі! Аднак спачатку вернемся да асобы гэтага чалавека.**

Рыгор Зыбайла нарадзіўся на Косаўшчыне (цяпер Івацэвіцкі раён) ў 1913 годзе. Па адукацыі быў лясным інжынерам. У верасьні 1939 г. ён удзельнічаў у нямецка-польскай вайне, трапіў у нямецкі палон. Пачаў супрацоўнічаць з абвэрам, увайшоў у Першы штурмовы зьвяз, які быў скінуты на Беларусь перад нападам Нямеччыны на СССР. Адзін з кіраўнікоў падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі. Старшыня Слонімскай акруговай Беларускай Народнай Самапомачы, пасьля высланы немцамі на пасаду кіраўніка раёну ў Дзярэчын. Зь лета 1943-га — намесьнік старшыні БНС Юрыя Сабалеўскага ў Менску. З сакавіка 1944 году — начальнік Беларускай Краёвай Абароны ў Глыбоцкай акрузе, лейтэнант. Удзельнік 2-га Усебеларускага кангрэсу. У 1944 г. быў надлейтэнантам у беларускай дывізіі Зіглінга. Разам з батальёнам гэтай дывізіі напрыканцы 1944-га перайшоў на бок французскіх партызанаў. Пасьля беларускія жаўнеры апынуліся ў амэрыканскім лягеры для ваеннапалонных. Зыбайла й іншыя пайшлі дабраахвотнікамі ў польскую армію генэрала Андэрса. Пры праверцы дакумэнтаў польскай контрразьведкай у Марсэлі, у Зыбайлы была знойдзена фотакартка, на якой ён быў у форме лейтэнанта БКА, а таксама іншыя дакумэнты. Палякі арыштавалі яго й нібыта

працяг на бал. 2



**Удзельнікі першага зьезду акруговых кіраўнікоў Беларускай Народнай Самапомачы ў Менску ў 1942 годзе. Рыгор Зыбайла сядзіць другі зьлева.**

# Рыгор Зыбайла не загінуў у Францыі, а прайшоў савецкія канцлягеры

пачатак на бал. 1

расстралялі. Аўтарам іншай версіі зьяўляецца сябра БНП **Віктар Сікора**, які ўспамінае: *"Заўсёды цікавіўся лёсамі нашых сапраўдных патрыётаў. І вось аднойчы даведаўся пра лёс былога начальніка БКА Глыбоцкай акругі Зыбайлы. Расказвалі, што ён пасьля вайны быў выкладчыкам тапаграфіі ў адной з сакрэтных школ, якая рыхтавала людзей, што павінны былі вярнуцца на Беларусь і падпольна працаваць супраць бальшавікоў... Аднойчы Зыбайла пазнаёміўся з двума беларускімі хлопцамі, якія добра ведалі ўсіх беларускіх дзеячаў, выдатна гаварылі па-беларуску. Ён зь імі пасябраваў. І вось аднойчы ён іх запрасіў да сябе на кватэру. Там "сябры" зьвязалі яго, накінулі на рот кляп і кінулі ў машыну. Пераехалі спачатку французска-нямецкую, а пасьля нямецка-савецкую мяжу... Зыбайлу засудзілі на 25 гадоў лягераў. Былі людзі, каторыя яго бачылі. Казалі, што яму на допытах выбілі адно вока. Пра далейшы ягоны лёс больш нічога ня чуў..."*.

**Барыс Данілюк**, упэўнены ў гібелі Зыбайлы ад польскіх рук, піша: "усялякія іншыя чуткі пусьцілі людзі, што самыя Рыгора Зыбайла ня знալі і, магчыма, зблыталі яго з кім іншым". І, сапраўды, у гэтае можна было б паверыць, каб адным са сьведкаў ня быў чалавек, які некалькі гадоў працаваў разам з Зыбайлам падчас нямецкай акупацыі.

Былы слонімец 77-гадовы **Пётр Пархута** нядаўна завітаў у свой родны горад з Расеі. Выпадкова нашая зь ім размова зайшла пра Рыгора Зыбайлу. І вось што ён пра яго расказаў:

*"У час нямецкай акупацыі я працаваў перакладчыкам у Слонімскай БНС (Беларускай Народнай Самапомачы) у Зыбайлы, які быў старшынёй камітэту. БНС спачатку займаў будынак насупраць касьцёла сьв. Андрэя (плябанію). Пасьля знаходзіўся ў цэнтры горада, у былым кляштары (цяпер там інтэрнат медвучэльні). Пазьней Зыбайлу са Слоніма пераводзяць начальнікам Дзярэчынскага раёна. І ён забірае мяне з сабой туды таксама перакладчыкам. Я нямецкую мову трохі ведаў. І там мы былі каля году.*

*Зыбайла яшчэ сказаў мне: — Калі ты ня пойдзеш да мяне, цябе ўсёроўна куды-небудзь забяруць перакладчыкам. Ці ў СД, ці ў гарадзкую ўправу.*

*Я падумаў і згадзіўся. З Зыбайлам я ўжо неяк спрацаваўся за гэты час. А чаму Зыбайлу перавялі ў Дзярэчын, я ня ведаў. Калі мы вярнуліся з Дзярэчына, Зыбайлу забралі ў Менск, да Астроўскага. Адтуль ён ужо трапіў на Захад. Не ведаў я тады, што Зыбайла займаўся нейкімі падпольнымі справамі, не адчувалася. Аднак усё магло быць, але мне ён нічога не казаў.*

*Спатыкаўся я з Рыгорам Барысавічам Зыбайлам і пасьля вайны. Нават езьдзіў да яго ў вёску. А жыў Зыбайла ў вёсцы Яглевічы недалёка Івацэвіч. Ён быў вельмі вялікі беларускі патрыёт. Зыбайла мне расказваў, як яго дапытвалі чэкісты: "Мяне сьледчы пытаецца: "Почему ты изменил родине?". А я яму гавару: "Якая "родина"?! У мяне Радзіма — Беларусь, а не Савецкі Саюз! Я ў вас ніколі не жыў і не лічу Савецкі Саюз сваёй Радзімай. А сваёй Беларусі я ніколі не здраджваў!". Сьледчы падумаў і кажа: "Да, ты вроде прав, что не изменник Родины. Ну, раз ты не жил при советской власти"...*

*Зыбайла быў, мусі, асуджаны на 10 гадоў лягероў. Ён ніколі не расказваў, як трапіў на Беларусь, як яго арыштавалі. А я Зыбайлу не распытваў. Ведаю толькі, што трапіў на Беларусь ён ужо пасьля вайны. Нібыта з Чэхаславакіі.*

*У Яглевічах у Зыбайлы была сям'я: жонка, адзін ці два сыны. Я бываў у яго ў вёсцы. Рыгор Зыбайла працаваў там па будаўнічай часьці. Часта прыязджаў у Баранавічы, дзе я тады жыў, па сваіх справах і заўсёды заходзіў да мяне. Езьдзіў ён да нашага агульнага знаёмага ў Слонім. Запрашаў нас у госці да сябе. У яго матацыкл быў і ён на ім усё езьдзіў...*

*Сустракаліся мы зь ім у 50-60-я гады. Думаю, што ён ужо не жыве. Бо вельмі ж даўно перастаў Зыбайла да мяне заязджаць у Баранавічы, а я да яго больш не езьдзіў.*

*Наконт "выбітага на допытах вока". Я нічога такога ў яго не заўважыў. І, наогул, здароўе ў Зыбайлы пасьля лягероў было нармальнае. Дарэчы, гаварыў Зыбайла заўсёды па-беларуску. Толькі ўжо калі да яго хто зварочваўся парасейску, дык ён таксама па-расейску адказваў.*

*Згадваецца яшчэ такі выпадак. Неяк у лягеры сутыкнуўся я з чалавекам па прозьвішчу Зыбайла. Аказалася, што Рыгор Барысавіч быў ягоным дзядзькам. А гэты пляменьнік сядзеў за тое, што працаваў канюхам у жандармерыі..."*.

Нягледзячы на тое, што ёсьць яшчэ некаторыя незразумелыя эпізоды, можна паспрабаваць зрабіць пэўныя высновы. Пасьля капітуляцыі фашыстоўскай Нямеччыны сябры БНП, а тым больш ЦК БНП, мусілі выконваць прынятыя кіраўніцтвам партыі рашэньні. Адныя зь іх мусілі прабівацца любымі шляхамі на Беларусь, каб далучыцца да партызанкі Вітушкі, іншыя павінны былі працаваць на Захадзе ў Замежным Сэктары БНП. Невядома, ці арышт Зыбайлы ў Марсэлі быў сапраўдным, ці гэта была інсцыніроўка. У любым выпадку ён расстраляны ня быў. Гэта ня мог ня ведаць старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, але ён эмігрантам казаў, што Зыбайлу выратаваць не пасьпелі (гл. "ГК", № 2, ліпень 2000 г.)...

Навошта гэта рабілася? Для таго, каб гэтага чалавека перасталі шукаць савецкія сьпецслужбы. Няма чалавека – няма праблемы. А Зыбайла рыхтаваўся або перабрацца на Беларусь для ўдзелу ў партызанцы, або працаваць у сакрэтнай школе заходніх сьпецслужбаў, дзе рыхтаваліся дывэрсанты-разьведчыкі для пасылкі за "жалезную заслону". Відаць, ён атрымаў фальшывыя дакумэнты на чужое прозьвішча, зьмяніў зьнешнасьць...

У першыя пасьляваенныя гады на Захадзе зьнікла яшчэ некалькі вядомых беларускіх дзеячаў. Зьніклі, магчыма, для таго, каб аб'явіцца на Беларусі? Той жа Міхал Вітушка пастараўся, каб яго дзяржбясьпека лічыла загінуўшым, а сам разбудоўваў свае падпольныя й партызанскія структуры...

Невядома толькі, ці сапраўды Зыбайла быў выкрадзены і вывезены ў СССР, ці дабраўся да Беларусі сам. Невядома, ці браў ён удзел у антысавецкім Супраціве, ці не пасьпеў...

**Сяргей Ёрш**

# Ці быў замах на Хрушчова, арганізаваны беларускімі партызанамі?

**Сёлета ў беластоцкай беларускай газэце "Ніва" (№ 2 ад 9 студзеня) зьявілася нататка Мікалая Капчука "Паляваньні ў Белавежскай пушчы", у якой, між іншым, былі пададзены малавядомыя абставіны замаху на савецкага "правадыра" Мікіту Хрушчова ў 1963 годзе.**

"У 1963 годзе ў Белавежскай пушчы паляваў генэральны сакратар КПСС Мікіта Хрушчоў з першым сакратаром ПАРП У. Гамулкам, — піша Капчук. — Гарэлкі загоншчыкам зьвярыны Хрушчоў даваў многа і страляў таксама многа, але нічога не ўпаляваў. **У паляўнічым палацыку, у якім меў начаваць Хрушчоў хтосьці ўчыніў пажар, але гэта было замята і савецкія грамадзяне ніколі аб гэтым не даведаліся...** Пасьля заканчэньня паляваньня ў савецкім часопісе "Огонёк" быў зьмешчаны здымак Хрушчова ў Белавежы і жыхара вуліцы Трапінка Сяргея Вашкевіча з подпісам: "Лучший знаток охоты Сергей Вашкевич".

Праз месяц у "Ніве" зьявіўся другі артыкул пра тое здарэньне ў пушчы. На гэты раз яго напісаў Мікалай Панфілюк пад загалоўкам "Дружба ў трусіках" (№ 6 ад 6 лютага). Пінфілюк піша: "З цікавасьцю прачытаў я кароткі, але цікавы артыкул... Тое, што ў славутай пушчы палявалі такія знатныя людзі, як Масціцкі, Герынг, Рыдз-Сьміглы і іншыя — гэта нам і не навіна. Але што ў 1963 годзе ў Белавежскай пушчы паляваў І сакратар ЦК КПСС Мікіта Хрушчоў з І сакратаром ЦК ПАРП Уладзіславам Гамулкам — гэта была амаль тайна і то з простай прычыны: **у паляўнічым палацыку, дзе начавалі знатныя госьці, успыхнуў пажар.** Я сам чуў ад некаторых белавежцаў, што ў час пажару Хрушчоў з Гамулкам уцякалі ў адных трусіках і смешна было глядзець на голы і тоўсты зад Мікіты. Я калісьці пісаў пра гэта ў "Ніву", але не надрукавалі. Той пажар быў яўнай правакацыяй і варожым актам у адносінах да рускіх з боку верных і адданых палякаў. І вартавыя чамусьці праспалі".

Вось такая інфармацыя. Атрымоўваецца, што ў 1963 годзе ў Белавежскай пушчы (на тэрыторыі Польшчы) хтосьці падпаліў "паляўнічы палацык", дзе знаходзіліся Хрушчоў і Гамулка. І зрабілі гэта, нібыта, палякі. Аднак ёсьць і іншая вэрсія.



*Мікіта Хрушчоў яшчэ ня ведае, што за ім сочаць беларускія партызаны*

У эміграцкай газэце "Беларускі голас" (Таронта, № 91, сакавік 1962 г.) зьявіліся дзьве невялічкія зацемкі: "Замах на Хрушчова" і "Спаленьне палацыку ў Белавежы". Паводле гэтых зацемак малюецца зусім іншая карціна. Па-першае, адбыўся замах на Хрушчова не ў 1963 годзе, а напачатку 1962-га або напрыканцы 1961-га. Па-другое, высьвятляецца, што магла быць сэрыя тэрактаў. "Беларускі голас" піша: "Ворган італьянскай кампартыі "Л'Юніта" зьмясьціў на першай бачыне ведамку, што падчас



*Уладзіслаў Гамулка*

выступу Хрушчова **ў сталіцы Беларусі** — Менску, на Сельскагаспадарчай нарадзе, **нехта стрэліў за яго з рэвальверу**, патрапіўшы ў руку, або ў грудзі. Японскія весткі кажуць **аб стрэле ў Хрушчова пры польскай мяжы**, як ён ехаў на патайное спатканьне з Гамулкай у Белавежы. Прадстаўнік ураду ў Маскве запярэчыў перад заходнімі журналістамі пагалоску аб параненьні Хрушчова.

Польская прэса падала **аб пажары з нявыкрытых абставінаў б/ылога/ царскага, паляўнічага палацыку ў Белавескай Пушчы**, дзе меў спаткацца Хрушчоў з Гамулкай — сакратаром Польскай Кампартыі. Японская прэса зьвязвае пажар палацыку ў Белавежы з пагалоскамі аб рэвальвэровым замаху на Хрушчова, **прыпісваючы гэтае руху апору на Беларусі**".

Атрымоўваецца, што называецца некалькі месцаў замаху на Хрушчова: Менск, пагранічча і Белавежа. Аднак зусім магчыма, што месца было адно — Белавежская пушча. Як бачым, па адных зьвестках, зрабіць гэта маглі палякі, па іншых — невядомыя нам беларускія патрыёты-партызаны.

Чаму ж гэты замах, калі ён сапраўды меў месца, замоўчваецца? Тут няма нічога дзіўнага. Савецкія таямніцы маюць уласьцівасьць не адкрывацца грамадзтву вельмі доўга. Вось, напрыклад, толькі ў траўні 2000 г. была рассакрэчана справа Мікалая Раманава, тэрарыста, які 1 траўня 1954 г. у Архангельску забіў на трыбуне савецкага генэрала й партыйнага функцыянэра. Зыходзячы з гэтага, можна прагназіраваць, што яшчэ не хутка мы даведаемся падрабязнасьці тых далёкіх падзей.

**Іван Радзевіч**

*Дайджэст*

# Сьцяпан Бандэра, магчыма, вернецца на Бацькаўшчыну

**Нядаўна ўкраінскія палітыкі-патрыёты прынялі рашэньне перазахаваць на Бацькаўшчыне парэшткі нацыянальных герояў, забітых за мяжой.**

У гэтым сьпісе, падрыхтаваным Рухам, Кангрэсам украінскіх нацыяналістаў і Партыяй рэфармістаў, на першым месьце стаіць Сьцяпан Бандэра, шматгадовы кіраўнік Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў, які быў забіты ў Мюнхэне агентам КГБ і там пахаваны. Плянуецца, што Бандэра, як і Пятлюра ды інш., будзе пахаваны на гістарычнай Аскольдавай магіле, дзе ўтворыцца нацыянальны пантыён славы.

Нядаўна Украіну наведаў унук Бандэры 30-гадовы Сьцяпан Бандэра, які жыве ў Канадзе. Ён прафэсійны журналіст, займаецца бізнэсам (кіраўнік фірмы "Бандэра і партнёры"). Падаем урыўкі зь ягонага інтэрвію:

"Калі мая сям'я пачула, што дзеда хочуць перазахаваць пад Львовам, мы сказалі: хай лепш ляжыць у Мюнхэне. Ён там загінуў, там штаб-кватэра АУН. Але Кіеў — іншая справа. Я хацеў бы, каб дзед ляжаў побач з лепшымі людзьмі, каб з Парыжа на Ўкраіну перавезьлі прах Пятлюры...

**— Падтрымліваць нацыяналістаў цябе абавязвае імя?**

— Яно акрэсьліла ўсё маё жыцьцё. Калі прыязджаю на Ўкраіну, людзі мяне хочуць бачыць, ледзь не на сувэніры разабраць, зь мяне спрабуюць зрабіць публічнага палітыка. Цяпер я абавязаны прыняць украінскае грамадзянства — Бандэра павінен быць украінцам па пашпарту... Пакаленні майго дзеда, майго бацькі ўсё жыцьцё прасядзелі ў Канадзе на валізках — усе чакалі, калі камуністы на Ўкраіне перастануць "быць панамі", хацелі вярнуцца на Радзіму. Людзей выхоўвалі з думкай аб тым, што яны павінны аднавіць украінскую дзяржаву. А аказалася, што дзяржава ёсьць.

**— Твой бацька амаль пайшоў радыкальным шляхам Сьцяпана Бандэры, які ў маладосьці арганізоўваў рэзанансныя забойствы...**

— Тады на Ўкраіне быў галадамор, людзі гінулі і хацелі помсьціць. Гэтага патрабаваў час, сям'я адносіцца да спраў дзеда абсалютна нармальна. Пра Бандэру-нацыяналіста расказваюць безьліч легендаў, не падазраючы, што і ён, і яго браты сядзелі ў нямецкіх канцлягерах. Браты Сьцяпана, Васіль і Аляксандр, загінулі ў Асьвенцыме. Самога Бандэру арыштавалі пасьля таго, як ў чэрвені 1941-га нацыяналісты абвесьцілі незалежнасьць Украіны. Майго дзеда адправілі ў Нямеччыну, у канцлягер. Ён выйшаў адтуль толькі ў 1945-ым.

**— Гісторыкі дагэтуль губляюцца ў дагадках, як Бандэры ўдалося вызваліцца. Некаторыя лічаць, што ён дамовіўся зь немцамі й выйшаў зь іх дазволу. Што ты пра гэта ведаеш?**

— Каб разабрацца канчаткова, трэба дабрацца да нямецкіх дакумэнтаў. У частцы архіва дзеда, якая засталася ад АУН, рамантычныя лісты, фотаздымкі й нічога аб яго справах і АУН. Калі чытаць толькі гэта, то дзед падаецца лірычна-творчым чалавекам, які любіў шпацыраваць па лясах, весяліцца, фатаграфаваць...

**— Сьцяпан Бандэра яшчэ да вайны хацеў выехаць у Чэхію і, парушыўшы традыцыі рода, дзе ўсе былі сьвятарамі, паступіць у гаспадарчую акадэмію. Каб яго жаданьне збылося, можа, не было б магутнага руху АУН, яе баявога атрада Ўкраінскай паўстанчай арміі, аддзела "Нахцігаль"?**

— Дзед Сьцяпан меў вялікі ўплыў на арганізацыю нацыяналістаў. Барацьба не сьціхала на Ўкраіне да сярэдзіны 50-х. Дзед быў сімвалам, але феціш маглі зрабіць з каго-небудзь іншага. Нацыяналістычны рух пачаўся з пісьменьніка-клясыка Івана Франко, аунаўцы падхапілі яго ідэі. Калі б дзед стаўся аграномам, гэта зьмяніла б сытуацыю. Ва ўсялякім выпадку, бандэраўцаў называлі-б па-іншаму. Пра іх пісаў Салжаніцын у "Архіпелагу", гаварыў, што іх зьяўленьне ў сібірскіх лягерах зьмяніла сытуацыю. Да таго часу там гаспадарылі крымінальнікі.

**— Сям'я да гэтага часу вінаваціць Маскву ў гібелі Бандэры?**

— Я бы хацеў сустрэцца са Сташынскім (чэкіст, забойца кіраўніка АУН, які пасьля здаўся заходненямецкім уладам — **«ГК»**) — не дзеля помсты, а каб выясьніць, як было на самой справе. Суд прызнаў яго невіноўным, ён выконваў палітычны загад маскоўскіх заказчыкаў. Сташынскі адсядзеў 8 гадоў. У 1990-ым я зрабіў вэбсайт, распавёў пра Бандэру, паказаў зброю, зь якой яго застрэлілі ў Мюнхэне, прывёў паказаньні Сташынскага. Гледзячы на тое, што зброя страляла газам, імітуючым сардэчны прыступ, а таксама на паказаньні Сташынскага, забойства было справай Масквы.

**— Ты разабраўся ў сёньняшняй украінскай сытуацыі, вывучыў спадчыну дзеда. А ніколі не хацелася пайсьці па яго шляху, уступіць у АУН?**

— Нават калі б і ўступіў, то вам бы не сказаў — арганізацыя ж падпольная. Я быў сябрам маладзёжнай арганізацыі СУМ ("Сьпілка ўкраінскай моладзі", маладзёжнае крыло АУН — **"ГК"**). У 20-х гадах яе стварылі ў Харкаве нацыяналісты, пасьля яна працавала за мяжой.

**— Ты наогул падобны на дзеда?**

— Ён быў амаль лысым, а ў астатнім я — выліты дзед. Дзед вёў на Бацькаўшчыне вайну на два фронта — супраць немцаў і супраць Саветаў. Мне гэтым, спадзяюся, не давядзецца займацца...

*Алесь ЗМАГАР*

# МОЙ ЖЫЦЬЦЯПІС

**Алесь Змагар (Яцэвіч, 1903 — ?) — гэта беларускі пісьменьнік, вядомы эміграцыйны палітычны й грамадзкі дзеяч, удзельнік Слуцкага антыбальшавіцкага паўстаньня.**

**У 1960-80-я гады Змагар ачольваў ветэранскую арганізацыю «Беларускі Вызвольны Рух», выдаваў газэту «Незалежная Беларусь». Многія ягоныя літаратурныя творы прысьвечаны тэме змаганьня беларускага народу супраць бальшавіцкай акупацыі.**

**Гэтая аўтабіяграфія Алеся Змагара захоўваецца ў архіве Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. Друкуецца паводле публікацыі ў кнізе Лявона Юрэвіча «Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі».**



Перад тым, як пачаць апісваць свой жыцьцяпіс, я мушу коратка спыніцца на радаслоўнай маіх дзядоў, якія мелі вялікі ўплыў на ўсё маё жыцьцё. Прадзед майго бацькі, які пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай (Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага) быў моцна пакрыўджаны маскалямі, ратуючы сваё жыцьцё, падаўся ў Запарожскую Сеч. Валодаючы надзвычайнай сілаю, ён хутка здабыў сярод запарожцаў вялікую пашану. Ды нядоўга яму давялося красавацца сярод запарожцаў. Цераз пару гадоў маскоўская царыца Кацярына выкарыстала нагоду й зруйнавала Запарожскую Сеч. І павандравалі запарожцы на Кубань пад чэчэнскія кулі. Там нарадзіўся мой прадзед і вырас моцны, як дуб. Ваяваў з туркамі, быў у Пэрсіі ды, вярнуўшыся на Кубань, не паладзіў з атаманам, стаўленікам і вялікім халуём маскоўскага цара, і выехаў на Беларусь у Слуцкае Палесьсе, у дрыгву якога не дасягала нага маскаля. Празь які час мой дзед, Тарас Яцэвіч, купіў у засьценку Збудзішчы Грэскай воласьці 100 дзесяцін зямлі. Ён быў такі самы асілак, як і ягоныя дзяды, з дубінаю хадзіў на мядзьведзя й ненавідзеў маскалёў. Быў ён спрытным коньнікам і пачаў вучыць мяне коннай язьдзе, калі мне было толькі 4 гады. Не забыцца ягоных слоў: "Будзе й тут бяда, і табе гэта прыдасца. Калі вырасьцеш, падавайся на Кубань. Там ёсьць беларускія станіцы. А калі й там будзе бяда, то валі ў Чэчню. У чэчэнскі аул ні адзін маскаль ня ступіць". Што датычыцца майго дзеда па мацеры, то хоць ён і не валодаў такою неймавернаю сілаю, як дзяды па бацьку, але ён быў таленавіты красамоўца — баечнік. Апавядаў ён вельмі цікавыя байкі, часта пераплятаючы з гістарычнымі слаўнымі падзеямі Вялікага Княства Літоўскага. "Ведайце, дзеткі, — казаў ён, — што мы ня рускія. Мы й не беларусы. Мы — ліцьвіны. Наша слаўнае калісь магутнае Валікае Княства Літоўскае заваявалі маскалі, назвалі сябе рускімі, а нам далі назоў «беларусы» дзеля падабенства з рускімі. Не забудзьце гэтага, як вырасьцеце. Любеце волю". Нарадзіўся я ў 1903 г. у вёсцы Цараўцы Слуцкага ўезду ў сям'і вясковага хвэльчара. У 4 гады быў аддадзены да бабкі ў засьценак Збудзішчы Грэскай воласьці. Там дзед Хведар апавядаў цікавыя байкі, а дзед Тарас вучыў верхавой язьдзе, што мне вельмі падабалася, і ў 10 гадоў я зь лёгкасьцю скакаў цераз канавы, кусты й нават цераз невысокія жэрдачныя платы, што мне потым, як быў у казачым войску, вельмі прыдалося. Маючы 8 гадоў, паступіў у народную трохклясавую пачатковую школу, якую ня скончыў, бо ў 10 гадоў бацька аддаў мяне ў падрыхтоўчую клясу Слуцкае клясычнае гімназіі. Вучыўся я вельмі добра, любіў чытаць розныя прыгодніцкія апавяданьні, асабліва забароненыя для гімназістаў, пра Ната Пінкертона, Ніка Картэра, Шэрлака Холмса, Тэхаскага Жака і іншых. Асабліва мне падабаўся герой Дзікага Захаду, галава племені сіўксаў Віці Бэр. У міжчасе бацька навучыў мяне плаваць, і я лёгка пераплываў Случ. У 1915 г., падчас калядных вакацыяў, мы мелі заданьне апісаць іх. Заміж аднаго лістка я напісаў цэлы сшытак, красачна абмаляваўшы беларускія Каляды на Случчыне. Успомніў я і "зорку", і "казу", і "мядзьведзя з жоравам", і "цыгана з кабылаю", і калядныя пачастункі, і гаданьне пад Новы Год. Апісваў я па-руску, але песьні й гутаркі пісаў па-беларуску. Мой сшытак зараз-жа быў перададзены інспэктару гімназіі А. А. Вазьнясенскаму, і на другі дзень я быў вызваны ў ягоны габінэт. Зайшоў са страхам, бо думаў, што будзе гутарка пра забароненую літаратуру. Але ён мяне адразу супакоіў, аддаў мой сшытак, зрабіўшы свае заўвагі, пахваліў ды парадзіў чытаць Лермантава й Пушкіна, дадаўшы, што зь мяне можа выйсьці добры пісьменьнік. Перад рэвалюцыяй абшарнікі пачалі прадаваць свае маёнткі, і мой бацька купіў 24 дзесяціны. Заняліся сельскай гаспадаркаю. Радасна сустрэлі апавяшчэньне 25 Сакавіка — Дня Незалежнасьці. Гімназісты выдалі першы свой часапіс "Прамень" і зьмясьцілі мой першы верш "Прамень". У Слуцку на чале з Жаўрыдам працуе Камітэт. Войскі чужынцаў — немцаў, палякаў, чырвоных маскалёў, руйнуючы беларускія сялібы, перакачваюцца па нашай бацькаўшчыне. Баронячыся ад чужынцаў, беларусы хапаюцца за зброю, а ў 1920 г. уся Случчына паўстала супраць крывавай навалы маскоўскіх чырвоных катаў і зацята абаранялася ў няроўнай барацьбе. Бацька з аддзелам у 80 стралкоў апэраваў у тылу чырвоных, зьнішчыў іхны карны аддзел Цыганкова ды, ранены, трапіў у палон. Я і іншыя юнакі былі ў разьведцы. Бацьку і іншых, узятых у палон, расстралялі, а мне пашчасьціла ўцячы. Трапіў да "зялёных". Каля мяжы новапаўсталае Польшчы я й мой сябра Ільлюк Кобер былі

# МОЙ ЖЫЦЬЦЯПІС

злоўлены й трапілі ў Слуцкую вязьніцу. Амаль год нас там катавалі. Паспытаў я й жудасны халодны карцар (2 тыдні прабыў у цёмных лёхах вязьніцы), але, як вялі на расстрэл, зноў меў шчасьце ўцячы. Зноў – да "зялёных". Былы камандзір аднаго з аддзелаў балахоўцаў Якаў Трухан радзіць мне і Ільлюку Коберу паступіць у Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт. Спачатку я арганізаваў у Цараўцах гурток СБМ, а потым у 1924 г. зрабіў фікцыйны падзел маёмасьці зь сям'ёю ды перадаў належныя мне 4 дзесяціны зямлі ў Цараўскую воласьць, за што атрымаў паперы, што я пралятар і ня маю ніякае ўласнасьці, а Ільлюк дастаў паперы, што ён – батрак. Я здаў іспыты на "выдатна", Ільлюк-жа, ня маючы закончаных 4 клясаў, нічога ня здаў, але як батрак быў прыняты ўмоўна, што зь цягам часу іспыты здасьць, а мяне не прынялі, бо хоць пралятар, але ня меў спраўкі аб працы. Наступнага году я такую даведку дастаў і паступіў у БДУ. І то з дапамогаю Ільлюка, які пасьпеў пралезьці ў камсамол. Атрымаў стыпэндыю – 17 рублёў у месяц, зь якіх 12 вылічвалі на абеды, адзін на выпіску газэты "Правда" або "Известия", адзін – на МОПР і інш., 4 рублі выдавалі на рукі для закупу хлеба, солі, цукру ці паперы або алоўка. Лазьня і інтэрнат былі бясплатныя. Жыў упрогаладзь. Летнімі вакацыямі пайшоў на чорную работу (капаць канавы). Акрамя грошай, атрымаў даведку як чарнарабочы ды заадно й характарыстыку аб сумленным выкананьні работы.

У 1927 г. шырока разгарнулася нацдэмаўская праца й пачаліся арышты. Із студэнтаў БДУ першаю ахвяраю быў вельмі здольны студэнт 2-га курсу літаратурна-лінгвістычнага аддзелу сябра Крывіцкі.

Насоўвалася пагроза арышту, а таму раней напісаныя каля паўтысячы вершаў з тэматыкай Бацькаўшчына, Слуцкае Змаганьне, каханьне – давялося схаваць, каб потым пры нагодзе перадаць для друку за мяжу.

Уключаюся ў нацдэмаўскую краязнаўчую працу, прымаю актыўны ўдзел у выступах "Сіняе Блюзы", навязваю сувязь з былымі слуцкімі паўстанцамі ды, каб мець рабочыя дакумэнты, іду на будаўнічыя працы, спачатку – абутковай хвабрыкі, а потым Унівэрсытэцкага гарадка. Дома не начую. Маючы характарыстыкі з будаўнічых работ як "ударнік", у 1929 г. паступіў на працу ў мэханічны аддзел вагона-рамонтнага заводу "Полымя Рэвалюцыі", адкуль, каб мець дакумэнт сярэдняй школы, паступіў на 2-і курс электратэхнічнага аддзелу Вячэрняга Рабочага Ўнівэрсытэту, куды прымалі выключна рабочых. Цяпер, маючы ў кішэні два харошыя дакумэнты з фотаздымкамі (школьны сьведчыў аб маім пралятарскім паходжаньні, а завадзкі даваў права бясплатна ехаць прыгарадным поездам), я адчуваў сябе больш-менш бясьпечна на выпадак уцёкаў зь Менску.

У 1930 г. адбылося раскулачваньне хутаранцаў, арыштавалі матку, брата Валодзю, сясьцёр Ліду й Любу й выслалі за Урал, пачалі шукаць мяне. Не знайшоўшы дома, пакінулі картку, каб я зьявіўся ў НКВД. Прачытаўшы раніцаю вызаў, я доўга не марудзіў, сеў на прыгарадны цягнік, ад'ехаў ад Менску ды купіў білет да Батуму, бліжэй да турэцкай мяжы. У Харкаве была перасадка. Чакаць трэба было да ночы. Перад адыходам цягніка была аблава, і я выратаваўся толькі дзякуючы бяспрытульнікам, якія выключылі сьвятло й церазь невялічкую бакоўку вылезьлі ў вакно й дапамаглі пралезьці мне. Назаўтра даехаў да Ўладзікаўказа, вылез з вагона й вырашыў ісьці пешкі па Ваенна-Грузінскай дарозе да Тыфлісу. Прайшоў 110 кілямэтраў, вельмі змарыўся, пару дзён адпачываў у парку, даехаў да Батуму, перабрацца за мяжу не ўдалося, успомніў дзедаву параду, вярнуўся на Кубань у Краснадар, потым у Ціхарэцкую, дзе паступіў на працу на паравоза-рамонтны завод ды як кубанскі казак завербаваўся на працу ў Данбас (у гэты час на Кубані быў голад), а потым 11 студзеня 1932 г. трапіў як курсант-аднагадзічнік у 34-ы Растоўскі Кавалерыйскі полк 6-й Чангарскай дывізіі, адкуль, як сярэдні камандзір запасу, 19 лістапада 1932 г. дэмабілізаваўся.

Паехаў у Менск. Праходжу паўз будынак НКВД. Вартавыя салютуюць мне. Бачна, кубанская папаха й камандзірская хворма маюць нейкі ўплыў. Пасьмялеў і вырашыў паехаць на Случчыну, зірнуць на свой хутар. Прыехаў. Будынкаў ужо не было, а выскачыўшы з-за куста чырвонаармеец адказырнуў маёй камандзірскай хворме, запытаў пропуск ды сказаў, што без дазволу хадзіць пабочным асобам тут забаронена, бо гэта ваенны палігон. Я хутка варочаюся назад у Менск.

У пошуках настаўніцкае працы зьвяртаюся ў Менскі Гарадзкі Аддзел Народнай Асьветы. Не памагла й вайсковая хворма, бо назаўтра сказалі, што працы ня маюць. Не знайшлося працы, нават часовай, і па "лікбезу". Па знаёмству трапіў на мясакамбінат, дзе арганізаваў спачатку групу, а потым цэлую школу з трыма настаўнікамі па ліквідацыі непісьменнасьці. А плата за працу йшла не ад ГарАНА, а ад Наркамату харчовай прамысловасьці.

У 1934 г., не жадаючы мець бліжэйшага знаёмства з НКВД, выяжджаю ў Кіеў. На маё шчасьце, у гэты час у Кіеве адчыняюцца дзевяцімесячныя Ўсесаюзныя курсы сьпіртавое прамысловасьці з аддзелам хімікаў, куды я, дзякуючы дакумэнту з Рабочага Ўнівэрсытэту, лёгка ўладкоўваюся. У прыгожых лябараторыях Кіеўскага цукровага інстытуту на Саломенцы курсанты вывучалі хімію й мікрабіялёгію. Ледзь пасьпеў скончыць курсы, як атрымаў позву ў НКВД. Палажыўшы яе назад у паштовую скрынку, я тэрмінова пакінуў Кіеў. Зноў Менск. Па знаёмству – праца ў якасьці зьменнага інжынэра на драждживым заводзе. Адначасна – асьпірантура. Дацэнт.

31 жніўня 1937 г. прызначаны дырэктарам 14-й сярэдняй школы дарослых, адначасна працую ў завочным сэктары Менскага пэдвучылішчы, а таксама ў Інстытуце гаспадарнікаў. Зноў позва ў НКВД і ўцёкі на Каўказ, а там – Нальчык.

**Працяг у наступным нумары**

# Беларуская Краёвая Абарона

**Сёлета ў INTERNET зьявіўся ілюстраваны альбом "Беларуская Краёвая Абарона" Уладзімера Шнэка (Выданьне Беларускага Вызвольнага Фронту, Аўстралія, 1984).**

**Гэтае выданьне было зроблена ў колькасьці некалькіх дзесяткаў паасобнікаў і таму зьяўляецца бібліяграфічнай рэдкасьцю. З гэтай прычыны пастараемся ў гэтым і бліжэйшых нумарах "ГК" падрабязна пазнаёміць нашых чытачоў са зьместам грунтоўнай працы сьв. пам. Уладзімера Шнэка.**

Дакумэнты з альбома "Беларуская Краёвая Абарона"

### АПРАБАЦЫЯ

Начальніка ГШ Беларускага Вызвольнага Фронту на выданьне Альбому ўніформы і адзнак Беларускай Краёвай Абароны.

Згодна з Пастановай ГШ Беларускага Вызвольнага Фронту даручаецца Начальніку КШ Беларускага Вызвольнага Фронту ў Аўстраліі маёру Ўладзіміру Шнэку выдаць у 40-я ўгодкі арганізацыі Беларускай Краёвай Абароны памятковы ілюстраваны Альбом уніформы і адзнак Беларускай Краёвай Абароны.

**Д.Касмовіч**
Начальнік ГШ Беларускага Вызвольнага Фронту
20.X.1984 г.
На Эміграцыі.

***

**БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА**
**Галоўны Штаб Беларускага Вызвольнага Фронту**

На працягу свайго доўгага існаваньня пад маскоўскай і польскай няволяй, беларускі народ і ягоны лепшы актыў ня схіліў і ня схіліць сваёй галавы перад панявольнікамі Беларусі розных колераў. Ён ня страціў сваёй нацыянальна-дзяржаўнай сьвядомасьці і годнасьці, змагаўся і далей змагаецца за Вольнасьць і Незалежнасьць свайго Краю. У рашучыя хвіліны наш народ хапаўся за зброю, каб аднавіць сваю Вольнасьць і Незалежнасьць.

У час Другой Сусьветнай Вайны, калі хваля вайны пранеслася праз Беларусь, народ наш выкарыстаў гэты час, каб арганізаваць свае Збройныя Сілы для аднаўленьня сваёй Беларускай Дзяржавы.

Дня 10-га сакавіка 1944 года мабілізацыйным загадам Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Прафэсара Радаслава Астроўскага, была паклікана пад зброю Беларуская Краёвая Абарона (БКА).

Заданьнем БКА было: абарона насельніцтва нашага Краю ад зьдзеку, тэрору і фізычнага нішчэньня, праз розных захопнікаў і ворагаў Беларусі. Мэтай-жа БКА - Беларускіх Збройных Сілаў, была здабыцьцё і абарона Вольнасьці, Бясьпекі Граніц Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі агалошанай Радай Беларускай Народнай Рэспублікі Гістарычным Актам 25-га Сакавіка 1918 года, ратыфікаваным Другім Усебеларускім Кангрэсам 27-га чэрвеня 1944 года.

Аднак БКА, хутка, пад напорам чырвонай арміі, ў цяжкіх баях, змушана была пакінуць свой Край. У час адступленьня з Беларусі ў БКА ўліліся шматлікія батальёны Краёвага Войска (ОД) з франтавой зоны Беларусі.

Згодна сваёй мэце і заданьню Беларускія Збройныя Сілы ніколі ня прымалі ўдзелу ў ніякіх зьнішчальных акцыях, а спробы немцаў пры адступленьні перакінуць некаторыя часткі БКА на заходні фронт, напаткаў на востры пратэст БЦР і рашучае супраціўленьне гэтых частак. Беларускіх афіцэраў і жаўнераў не запалохалі растрэлы ані нямецкіе канцэнтрацыйныя лагеры. Пры першай нагодзе гэтыя беларускія вайсковыя часткі пераходзілі на бок заходніх сілаў.

Апынуўшыся ў Нямеччыне, адна частка нашых Збройных Сілаў, пад камандаю сваіх афіцэраў вярнулася на бацькаўшчыну і яшчэ шмат гадоў, падтрыманая беларускім насельніцтвам, змагалася супраць камуністычнага акупанта, спадзяючыся, што Вольны Сьвет дапаможа ёй паканаць камуністычную небясьпеку і аднавіць вольную і незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Аб гэтым вызвольным змаганьні нашых слаўных Збройных Сілаў у Беларусі ня змог змаўчаць маскоўска-камуністычны акупант нашага Края. У Гісторыі Беларускай ССР, выдавецтва "Навука і Тэхніка", Менск, 1975 г. на старонках 77-78 тэндэнцыйна апісываючы беларускі народны супраціў маскоўскай акупацыйнай уладзе ў Беларусі, бальшавіцкія "гісторыкі" пішуць, што на працягу 1945-1947 гадоў была ліквідавана маскоўскімі акупантамі 814 антысавецкіх узброеных груп...

Другая частка БКА, пад камандаю генерала Канстантына Езавітава, была рэарганізаванай і падрыхтоўвалася да барацьбы з маскоўска-бальшавіцкім акупантам, у надзеі, што Заходнія Дзяржавы дапамогуць паняволеным Масквою народам вызваліцца з бальшавіцкай няволі.

Нажаль, незразуменьне праз вольны сьвет камуністычнай імпэрыялістычнай экспансіі і яе пагрозы для ўсяго сьвету, ня дало магчымасьці зьнішчыць гэтую камуністычную пагрозу, а нам беларусам, аднавіць сваю Вольную і Незалежную Дзяржаву.

Адначасна з вайсковай падрыхтоўкай, беларускія вайскоўцы: палкоўнік Сьцяпан Шнэк, маёр Пётар Касацкі і інш. на чале з Кіраўніком Вайсковых Справаў БЦР генералам Канстантынам Езавітавым, падрыхтоўвалі для БКА вайсковую ўніформу і адпаведныя адзнакі за ваенныя заслугі. З прычыны недахопу часу і матэрыялу ўся гэтая праца ня была закончанай.

**З заканчэньнем вайны, вызвольная барацьба беларускага народу ня спынілася. На бацькаўшчыне наш народ далей усімі магчымымі сродкамі супраціўляецца маскоўскаму акупанту.** У Вольным-жа Сьвеце беларускі сьвядомы актыў, Беларуская Краёвая Абарона ўліліся ў Беларускі Вызвольны Фронт, які далей змагаецца за аднаўленьне Беларускай Народнай Рэспублікі і на міжнародным форуме пашырае Вызвольную Ідэю Беларускага Народу, здабывае яму ўплывовых палітычных прыхільнікаў.

Няхай-жа гэты Памятковы Альбом, выданы з нагоды 40-х угодкаў утварэньня Беларускай Краёвай Абароны, служыць Сімвалам таго, што час няволі міне і на стражы граніц вольнай і незалежнай Беларускай Рэспублікі стануць

# Памяці Рыгора Клімовіча

**Як мы ўжо паведамлялі (гл. "ГК", № 2, 2000 г.), у Гомелі памёр вядомы змагар за незалежнасьць Беларусі Рыгор Клімовіч. Са сваіх 76 гадоў дванаццаць ён правёў у сталінскіх канцлягерах.**

Рыгора Клімовіча пахавалі пад Гомелям, на невялічкіх могілках вёскі Асовіна. Пахаваць не на гарадзкіх могілках, а менавіта на пагосьце ў вёсцы Асовіна – сваёй малой радзіме – была воля Рыгора Клімовіча. Тут навекі спачываюць яго бацька, маці, сястра, іншыя аднавяскоўцы з прозьвішчам Клімовіч.

Праводзілі Рыгора Клімовіча ў апошні шлях ня толькі ягоныя родныя – жонка, сын, дачка – але й ацалелыя паплечнікі, былыя вязьні савецкіх канцлягераў – зь Віцебску Васіль Неліповіч, з Гомелю Аляксандар Амельевіч, Іван Кушняроў, Цімох Вострыкаў – а таксама многія маладзейшыя аднадумцы і рупліўцы беларушчыны. Яны трымалі герб Пагоню і бел-чырвона-белыя сьцягі з чорнымі жалобнымі стужкамі.

Паводле агульнага меркаваньня, імя Рыгора Клімовіча абавязкова будзе ў падручніках беларускай гісторыі і літаратуры. Такую думку, у прыватнасьці ў жалобнай прамове на могілках выказала сябра Таварыства Беларускай Мовы Валянціна Башлакова. Была зачытаная і адозва старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскае партыі БНФ Зянона Пазьняка ў памяць выбітнага чалавека.

Рыгор Клімовіч быў вядомы ня толькі ў Беларусі, але й ва Украіне, у Расеі, удзельнічаў у міжнародных канфэрэнцыях і кангрэсах палітвязьняў у Маскве і Кіеву. Ён аўтар кнігі ўспамінаў "Сьмерць – ня самае страшнае", а таксама шматлікіх артыкулаў у часопісах "Воля", "Супраціўленьне ў ГУЛАГу", альманаху "АзёрЛАГ".

А летась пабачыла сьвет апошняя кніга Рыгора Клімовіча – "Канец ГорЛАГу", прысьвечаная падзеям Нарыльскага паўстаньня вязьняў у 1953 годзе. Аўтар кнігі быў адным з кіраўнікоў гэтага паўстаньня.

Рыгор Клімовіч успамінаў: "Я ўзначальваў беларусаў - іх было каля 5 тысячаў у "Горным" лягеры - і да мяне прымыкалі частка летувісаў і частка ўсходніх украінцаў. Гэта – вялікая група людзей. Ад іхнага імя я ўдзельнічаў у перамовах з маскоўскай камісіяй, якую прыслаў Бэрыя, і ад іхнага імя я выкладаў патрабаваньні паўстаўшых. Загінула пры падаўленьні паўстаньня дзесьці багата, зь іх каля ста беларусаў – бо беларусы паказалі сябе ў паўстаньні самымі зарганізаванымі, самымі прынцыповымі, мужнымі ды актыўнымі. Гэта адзначана і ўкраінцамі, і расейцамі, і на ўсіх міжнародных канфэрэнцыях палітвязьняў ГУЛАГу.

І калі сёньня нашыя "дзеячы" гавораць пра талеранцыю беларусаў – дык мы гэтага не разумеем".

**Казімер Яноўскі, Гомель**

# Беларуская Краёвая Абарона

пачатак на бал. 7

Беларускія Збройныя Сілы апранутыя ў уніформу беларускага жаўнера Беларускай Краёвай Абароны.

Начальніку Краёвага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту ў Аўстраліі маёру Ўладзіміру Шнэку, за ахвярную мастацкую працу ў аднаўленьні распрацованых вайсковых адзнак і ўніформы Беларускай Краёвай Абароны і выданьня гэтага Памяткоавага Альбому, Галоўны Штаб Беларускага Вызвольнага Фронту выказвае ШЧЫРУЮ ПАДЗЯКУ.

**Дзімітры Касмовіч**
Начальнік ГШ
Беларускага Вызвольнага Фронту
Эміграцыя
20.X.1984 г.

***

Альбом выдаецца як гістарычна-інфармацыйная памятка да 40-ых угодкаў утварэньня Беларускай Краёвай Абароны на Бацькаўшчыне, як адзінай сапраўды нацыянальнай Беларускай Збройнай Сілы, неабходнай для абароны правоў Беларускага Народу і аховы тэрытарыяльнай непарушнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ад усякага роду шматлікіх чужаземных панявольнікаў з усходу і захаду, апранутых у маску "вызваліцеляў", "апякуноў" ці "братоў", дэманструючых сваё братэрства і каханьне да ўсяго Беларускага бізуном, куляй, шыбеніцай ды агнём.

Галоўная мэта Альбому, гэта наглядна паказаць выгляд жаўнераў Беларускай Краёвай Абароны ўсіх рангаў, ступеняў і спэцыяльнасьцяў, з дадаткам некаторых узнагародаў за баевую адвагу і самаахвярную працу на службе Беларускаму Народу.

Дакумэнтальныя даведкі зьменьшаны да абсалютнага мінімуму, без глыбейшага разгляду гістарычных падзей змусіўшых Беларускі Народ так аднадушна адгукнуцца на мабілізацыйны заклік Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага і са зброяй у руках стаць у абароне сваіх Чалавечых і Нацыянальных правоў у шэрагах Беларускай Краёвай Абароны, ды нягледзячы на недастатковае ўзбраеньне праявіўшых цуды гэраізму і стойкасьці, як на полі бою, так і ў адбудове сваёй Дзяржаўнасьці ды нацыянальнай сьведамасьці.

Не закранаецца, таксама, прычыны і падзеі прывёўшыя да ўліцьця Беларускай Краёвай Абароны ў шэрагі Агульна Беларускай Змагарнай Арганізацыі на Чужыне - Беларускі Вызвольны Фронт.

**Уладзімір Шнэк**
Маёр БКА

*Працяг будзе*

«Голас Камбатанта»
газэта ветэранаў БВР

Выдадзена пры дабрачыннай падтрымцы Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша», Фонда «Альянс Каунтэрпарт», Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысьць дэмакратыі (ЗША). Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.